Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

12 лістапада 1997 года
СЕРАДА
№ 66
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 750 руб.
Цана ў розніцу — 1000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА




## ЧАС МЯСЦОВЫ

### Пад гарантыю ўрада

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Міністэрства фінансаў Беларусі выдасць нямецкаму банку "АКА Аусфюркрэдыт-ГмбХ" гарантыю ўрада рэспублікі пад пагашэнне акцыянерным таварыствам "Івацэвічдрэў" крэдыту на суму 3,5 мільёна нямецкіх марак і ўплату працэнтаў за карыстанне ім. Гарантыя выдаецца таму, што беларускі ўрад адобрыў рэалізацыю інвестыцыйнага праекта на выраб і экспарт акцыянерным таварыствам ламіраваных ДСП. Праект фінансуецца за кошт крэдыту, выдадзенага нямецкім банкам, і пагашацца будзе з уласных сродкаў дрэваапрацоўшчыкаў.

### Новы статус "Буслаўкі"

**БЯРОЗА.** Савет Міністраў рэспублікі распарадзіўся стварыць ва ўрочышчы "Буслаўка", якое знаходзіцца на мяжы з Пружанскім раёнам, біялагічны заказнік.

Агульная плошча ахоўваемай т ыторыі — 7936 гектараў і ўключае ў сабе частку зямель дзвюх гаспадарак Бярозаўскага, пяці гаспадарак Пружанскага раёнаў, частку ўгоддзяў Івацэвіцкага і Пружанскага лясгасаў, прылягаючую частку водасховішча "Селец".

Ахоўваць тут ёсць што. Многія прадстаўнікі фаўны і флоры, якія тут водзяцца, занесены ў Чырвоную кнігу.

У заказніку забаронена высечка лесу, забор вады ў прамысловых мэтах, усялякая гаспадарчая дзейнасць.

### Будзем узімку з малаком

**БАРАНАВІЧЫ.** Закончыўся пашавы перыяд. На стойлавае ўтрыманне ў раёне пераведзены 52 тысячы галоў буйной рагатай жывёлы. Добрымі былі сёлета травы — вырас надой малака ад каровы ў сярэднім на сем працэнтаў. Пастараліся вяскоўцы на нарыхтоўцы кармоў на зіму. У параўнанні з леташнім годам іх аб'ём павялічыўся на 11 працэнтаў.

Ёсць у кароў кармы, а ў нас будзе малако.

### Ці ўдасца эксперымент?

**ІВАЦЭВІЧЫ.** З 3 лістапада гэтага года ў райцэнтры ў парадку эксперыменту пачаўся рух гарадскога аўтобуса. Маршрут пачынаецца з вакзала, потым па вуліцы імя Леніна да СШ № 3, адтуль на Міхнавічы і ў Бараны. Зваротны маршрут пралягае на Міхнавічы, частку вуліцы імя Леніна, вуліцу Чарткова, СШ № 4 і № 2, дзіцячы сад "Алеся", СШ №1, бальніцу, а затым зноў вакзал.

Такіх рэйсаў аўтобуса запланавана шэсць: у 7, 8, 11.40, 12.40, 16.40 і ў 17 гадзін 30 мін. Працяг кожнага рэйса каля 50 хвілін.

Ці спадабаецца такі маршрут гараджанам, даведаемся ўжо праз некалькі дзён.

### Нешта ў гэтым ёсць

**БАРАНАВІЧЫ.** Тутэйшых "афганцаў" можна ўмоўна падзяліць на дзве групы. Адны актыўна працуюць, удзельнічаюць у гарадской асацыяцыі воінаў-"афганцаў", дапамагаючы адзін аднаму. Другія — пасіўныя, разглаваныя на ўсіх і маўклівыя людзі. Першыя літаральна бурляць ідэямі, новымі справамі, усё часцей прыцягваюць другіх да нармальнага, актыўнага жыцця.

Нядаўна яны запусцілі на гарадскія маршруты "афганскі" аўтобус, афарбаваны ў камуфляжны колер. Арыгінальны напамінак землякам аб сваім існаванні! Пагаворваюць, што ў гэтым аўтобусе кампосцеры будуць заменены на гільзы. Што будзе далей — пабачым. У арыгінальнасці былым воінам не адмовіш.

## ● ПАДПІСКА-98

# ВЫПІСВАЙЦЕ І ЧЫТАЙЦЕ "Газету для вас"!

*Паважаныя чытачы! Заканчваецца 1997 год, а гэта значыць настаў час зазірнуць на пошту, каб аформіць падпіску на першы квартал 1998 года. Падпісны кошт на "Газету для вас" такі: на адзін месяц — 8 тысяч, на два — 16 тысяч, на тры — 24 тысячы рублёў. Індэкс газеты 63834. Падпіска прымаецца без абмежаванняў ва ўсіх аддзяленнях сувязі Баранавіцкага, Івацэвіцкага і Бярозаўскага раёнаў*

**Не адкладвайце на заўтра тое, што можна зрабіць сёння. Зрабіце выбар на карысць маладога незалежнага выдання "Газеты для вас"!**

● *СЛУЖБА 01*

# ІСКРЫНКА МАЛЕНЬКАЯ, А БЯДА ВЯЛІКАЯ

Нягледзячы на восень з яе сырым, дажджлівым надвор'ем, колькасць пажараў няспынна расце. Толькі на працягу кастрычніка іх адбылося 12. Усяго ж з пачатку года і за мінулыя 10 месяцаў у населеных пунктах раёна зарэгістравана 123 выпадкі пажараў. Нанесеныя імі матэрыяльныя страты склалі болей за 6,5 мільярда рублёў. Агонь пазбавіў жыццяў за гэты час траіх чалавек (у іх ліку чатырохгадовая дзяўчынка). 9 чалавек атрымалі розныя траўмы. У ліку пацярпелых ад агню чацвёра дзяцей, якія ў выніку сваіх лёгкадумных свавольстваў з агнём атрымалі моцныя апёкі. Самымі распаўсюджанымі прычынамі ўзнікнення пажараў у кастрычніку было і зноў неасцярожнае абыходжанне з агнём і дзіцячыя забаўкі з запалкамі. Дарэчы, па апошняй прычыне сёлета ўжо адбылося 34 пажары. Найбольшая колькасць іх здарылася ў райцэнтры, г. п. Целяханы і вёсках Быценскага сельсавета. Вось толькі некаторыя прыклады.

10-гадовы Барыс Карабкоў і 11-гадовы Антон Падгорны з в. Вольна, назбіраўшы на палігоне вайсковай часці дымавых шашак, забраліся з гэтым трафеем на гарышча жылога дома, што належыў бабулі аднаго са свавольнікаў — М. А. Падгорнай, якая хварэе і таму жыве ў дачкі. Там хлапчукі і падпалілі гэтую парахавую сумесь. Узніклым пажарам дом аказаўся амаль цалкам знішчаным.

У гаспадарцы жыхаркі в. Галік Н. М. Бонда буйным полымем запалаў стажок сена вагой 3 тоны. Віноўнік здарэння – 9-гадовы ўнук гаспадыні. Але не толькі дзеці небяспечна «жартуюць» з агнём. Ва ўласнай гаспадарцы жыхара в. Вулька Аброўская В. В. Пазняка пажар адбыўся па віне саміх жа гаспадароў. Яны пакінулі без нагляду распалены кацёл-кормазапарнік. Пры выпадзенні вуголля і разгарэўся пажар, у выніку якога моцна пацярпела драўляная прыбудова да хлява. Вялікіх страт агонь нанесці не паспеў, бо быў своечасова патушаны.

Як бачна з пералічаных прыкладаў, пажары час ад часу разгараюцца там, дзе адкрыта ігнаруюцца правілы пажарнай бяспекі. А між тым іх выкананне ўжо даўно павінна стаць неад'емнай часткай нашых паводзінаў, нормай жыцця.

*В. МОЛАШ, ст. супрацоўнік ЦНППБ АВПС-6 Івацэвіцкага раёна.*

КОЛА ДУМАК

# СЛУЖЫЦЬ БЫ РАДЫ...

*Маёр Курачкін, з якім сустрэўся наш карэспандэнт, прафесійны ваенны. Ужо 23 гады ён на службе ў арміі, спярша ў савецкай, а потым у беларускай. У. Л. Курачкін згадзіўся адказаць на некаторыя пытанні.*

**— Уладзімір Леанідавіч, хацелася б пачуць ад Вас колькі слоў пра сябе, пра Вашу маладосць?**

— Я – рускі. Нарадзіўся ў горадзе Арзамасе. Сёлета ў лютым мне споўнілася 40. Я з простай сям'і. Бацька – рабочы завода. Маці – швачка. Як і ўсе дзеці, вучыўся ў школе. Дзесяць класаў закончыў.

**— І як жа Вы выбралі дарогу ў самастойнае жыццё?**

— Ведаеце, доўга выбіраць не прыходзілася. Бачыў я навакольнае жыццё, п'янства, нейкі разброд, ніякай дысцыпліны. Таму вырашыў стаць ваенным і паступіў у Тбіліскае ваеннае вучылішча. Пасля накіравалі на службу ў Германію.

**— І як Вам ваенная служба?**

— Яшчэ ў вучылішчы прыйшлося сябе ламаць. А да службы я ўжо, можна сказаць, быў падрыхтаваны. Але ж за мяжой свае асаблівасці, таму прыходзілася падпарадкоўвацца тым правілам, якія існавалі. Служыць за мяжой тады лічылася за гонар.

**— І ўсё ж, Уладзімір Леанідавіч, якія падзеі найбольш запомніліся за пяць гадоў службы ў Германіі?**

— Падзеі, прызнацца, асабістыя. Аднойчы, едучы з Германіі, я меў вольны час у Брэсце. Гуляючы, я сустрэў дзяўчыну, якая і стала маёй жонкай. А праз год, у Патсдаме, мая Галя нарадзіла мне дачку Святлану. Вось гэта і лічу галоўным у маім замежным жыцці.

**— Як я разумею, пасля службы за мяжой Вы зноў апынуліся на радзіме?**

— Зусім правільна. Хаця радзімай тады называлі ўвесь Савецкі Саюз. Перавялі мяне ў Грузію, у горад Ахалкалакі, што паблізу граніцы з Турцыяй. Гэта высакагорная мясцовасць. Не хапала тут 25 працэнтаў кіслароду. Адна горная дарога вяла сюды. І нездарма самі грузіны называлі гэтую мясцовасць Грузінскай Сібір'ю. Мая жонка Галя працавала ў шпіталі медсястрой. Матэрыяльна жылі не вельмі багата. Тут пайшла ў першы клас Света, нарадзілася другая дачушка Таня, а затым трэцяя – Наташа.

У Ахалкалакі служыў 4,5 гады. Затым мяне перакінулі ў былы шахцёрскі пасёлак Вале, што ў 25 кіламетрах ад турэцкай граніцы і ў ста кіламетрах ад Ахалкалакі. Служыў тут сам, сям'я засталася на ранейшым месцы. Восем месяцаў жыў у інтэрнаце. А наогул служба ў Грузіі працягвалася амаль да канца 1992 года. Пасля распаду СССР, параду суверэнітэтаў саюзных рэспублік і вядомых падзей у Тбілісі служба ў расійскіх войсках на тэрыторыі Грузіі па сутнасці стала немагчымай.

**— Як Вы думаеце, Уладзімір Леанідавіч, чаму так сталася?**

— Я ўжо сказаў, што ўсё пачалося з распаду СССР. Маладыя грузіны сталі ўцякаць са службы, спярша па аднаму, а потым і дзесяткамі. Вярнуць іх назад у часць нікому не ўдавалася, у тым ліку і мне. «У нас будзе свая армія», — так заяўлялі мне прадстаўнікі іхняга Народнага фронту. Такое становішча было і ў іншых воінскіх часцях.

Пагаршэнне ўзаемаадносін адразу ж адбілася на матэрыяльным забеспячэнні і войск, і насельніцтва. Хлеба купіць у магазіне ўдавалася рэдка.

І самае небяспечнае было ў тым, што пачаліся правакацыі, спланаваныя і пастаянныя. Узброеныя групы, а іх называлі баевікамі, дзе маглі, там і захоплівалі зброю. Забівалі вартавых. А ў горадзе Горы, радзіме Сталіна, адбылася сур'ёзная сутычка. Чалавек каля ста баевікоў пад'ехалі на машынах да часці, забілі двух салдат на ККП. Узялі каравульнае памяшканне, забілі афіцэра, выпусцілі салдат-штрафнікоў з гаўптвахты, блакіравалі пад'езды дамоў, дзе жылі нашы афіцэры. Апошнія прабіліся да танкаў і пачаўся сапраўдны бой. Больш як дзесяць баевікоў загінулі. Са штаба падаспела падмацаванне і ўсіх баевікоў тады абяззброілі.

Або такі выпадак, што адбыўся ў нашым гарнізоне. Ехалі баевікі машынай і стрэльнулі з гранатамёта ў склад з боепрыпасамі. Усю ноч ірваліся снарады, усю ноч шугаў агонь і ніхто не спаў. Ці мала куды яшчэ могуць выстраліць грузіны? А неўзабаве не стала і сувязі. Ідучы на службу, афіцэры пакідалі сваім жонкам зараджаныя пісталеты. Вяртаешся з дзяжурства і не ведаеш, можа сям'я ўжо ў заложніках у баевікоў.

Правакацыі са стральбой і забойствамі працягваліся. Яшчэ год прамучыліся, а далей сталі падумваць, як вывезці адсюль сем'і. Але спярша, як водзіцца, адпраўлялі хатнія рэчы, мэблю.

**— І як хутка Вам удалося пакінуць Грузію?**

— Не сакрэт, да ад'езду мы рыхтаваліся загадзя. Усе рэчы былі складзены і ўпакаваны. Выдзелілі мне прычэп. Пагрузілі. Але калона, што ішла ў Пяцігорск, да машыны гэты прычэп не падчапіла і я застаўся адзін. Камандзір паехаў ў Ахалкалакі.

Я – туды. Дайшоў да камандзіра корпуса. Са сваімі рэчамі і сям'ёй завезлі нас не ў Пяцігорск, як планавалася, а ў Кутаісі, на ваенны аэрадром. І тут пачаліся зноў пакуты; як адсюль выбрацца, як з сям'ёй і грузам папасці ў самалёт. Якраз адсюль вывозілася штурмавая дывізія (розная маёмасць, боепрыпасы і г. д.) і ім было не да нас. У іх свой графік, свая неадкладная работа. Ізноў сустрэчы з начальствам, ізноў перамовы, ізноў нерваванне. Нарэшце, толькі з пятай спробы ўдалося пагрузіцца ў самалёт ІЛ-76Д. Уся сям'я сядзела на скрынках з боепрыпасамі, ухутаўшыся ў пледы і плашчпалаткі, пераадольваючы і страх, і холад. І вось мы на сапраўднай радзіме – у Расіі, у Армавіры, на неахоўваемым аэрадроме. Уздыхнулі ўсе з палёгкай.

**— Значыць, ступіўшы на родную зямлю, пакуты закончыліся. Ці не так, Уладзімір Леанідавіч?**

— На радзіме ўжо дапякалі іншыя праблемы. Як знайсці кантэйнер і адправіць свае рэчы ў Баранавічы, на радзіму жонкі. І гэта каштавала шмат нерваў. Адправіўшы сям'ю і маёмасць, я паехаў у Тбілісі ў штаб Закаўказскай ваеннай акругі, каб узяць накіраванне ў Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь. Такім чынам я апынуўся ў Беларусі, дзе раней толькі быў праездам, а потым некалькі разоў у Баранавічах, у бацькоў сваёй жонкі.

**— Як жа сустрэла Вас наша Беларусь і беларусы?**

— Пасля таго, што я перажыў у Грузіі, мне здавалася, што я папаў у зусім іншы свет. З 23 снежня 1992 года ўжо служу ў воінскай часці, што паблізу вёскі Волька Івацэвіцкага раёна. Выдзелілі трохпакаёвую кватэру. Жонка, праўда, зараз сядзіць без работы. Гадуем траіх дачок. Пра добрую матэрыяльную забяспечанасць гаварыць не прыходзіцца.

Усё жыццё мы, ваенныя, на колах. А нейкай перспектывы пакуль што не відаць. За 23 гады службы, лічы, нічога не нажыў. Як кажуць, ні двара, ні кала свайго. А трое дачок трэба выводзіць у людзі. Як казаў паэт – вось тут і жыві.

Не хацелася б на сумнай ноце заканчваць сваю гаворку. Але што зробіш, такі час. Усё ж я веру, што лепшыя часы яшчэ наперадзе. Калі людзі ваенныя і іх сем'і будуць жыць сапраўды па-людску, а выйшаўшы на пенсію, не стануць жабракамі.

І апошняе, што хацеў сказаць. У нас многа размоў пра кантрактную службу, пра ваенную рэформу. Увесь цывілізаваны свет гэта даўно зразумеў і сваіх абаронцаў не дае ў крыўду. А ў нас пакуль што па-старому, па-савецку. Але новае, я не сумняваюся, рана ці позна праб'е сабе дарогу.

*Гутарыў*
*С. КАЖАДУБ.*

☎ АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

# НТВ будзе, але пазней

*— Алё, гэта «Газета для вас»? Хачу спытаць у вас, якім чынам можна ў нас пастаянна прымаць тэлеканал «НТВ»? Зрэдку ж яго можна паглядзець.*

*Іван Міхайлавіч*
*(г. Івацэвічы).*

Каб атрымаць адказ на гэтае пытанне, мы патэлефанавалі на Слонімскую рэтрансляцыйную станцыю. Дзяжурны інжынер сказаў:

— Наша станцыя вядзе трансляцыю толькі трох каналаў – Беларускага, Грамадскага Расійскага і канала «Расія». Калі ж некаторыя жыхары вашага горада глядзяць канал «НТВ» – значыць яны карыстаюцца спадарожнікавым тэлебачаннем.

Дае тлумачэнні кіраўнік таварыства з абмежаванай адказнасцю «Спектр» (г. Івацэвічы) **В. С. Собаль**:

— Наша таварыства займаецца цяпер арганізацыяй мясцовага кабельнага тэлебачання. З яго ўводам наладзім пастаянную трансляцыю тэлеканала «НТВ». Але ім адным не абмяжуемся. Плануем дабавіць да яго каналы «НТВ плюс», «Еўраспорт», што-небудзь з Польскага тэлебачвання. Каб быў выбар.

А пакуль «НТВ» глядзяць у нас уладальнікі спадарожнікавых антэн. Дзякуючы ім, суседзі таксама могуць настроіцца на гэты канал.

Можна пачуць ад тэлегледачоў, што існуюць нейкія разыходжанні ў апублікаваных праграмах і тым, што паказваюць на экране. Так, існуюць, але яны нязначныя. У асноўным гэта датычыцца мастацкіх фільмаў.

СЕМІНАРЫ

# САКРЭТАЎ НЯМА. ІДЗІ І ГЛЯДЗІ

*Вялікая група спецыялістаў прадпрыемстваў канцэрна «Беллеспаперпрама» сабралася ў акцыянерным таварыстве «Івацэвічдрэў», каб абмеркаваць праблемы, звязаныя з вырабам драўнінастружкавых пліт.*

Па словах генеральнага дырэктара АТ «Івацэвічдрэў» **Б. Міхнюка**, калектыў валодае 76 працэнтамі акцый, астатнія належаць пакуль дзяржаве. Прадпрыемства мае шэсць структурных падраздзяленняў з поўным наборам элементаў юрыдычнай самастойнасці. 3,5 тысячы чалавек заняты выпускам мэблі, мэблевых шчытоў, сінтэтычнага шпона, кантавага пластыку, драўнінастружкавых пліт. Гэта адзінае прадпрыемства ў рэспубліцы, якое вырабляе ламініраваную пліту.

Акурат ламініраванне драўнінастружкавых пліт з'яўляецца самым перспектыўным напрамкам у вырабе зыходнага матэрыялу для мэблі. Каб зрабіць больш прыгожай паверхню ДСП, патрабуецца высокая якасць апрацоўкі. Іменна пра якасць ішла размова на семінары.

У ліку запрошаных на гэтае мерапрыемства быў прадстаўнік карпарацыі «Расійскія лесапрамыслоўцы» **Л. Казарынаў**. З інфармацыі аб становішчы спраў у яго краіне стала зразумела, што справы там ідуць не бліскуча. Аднак узоры драўнінастружкавага матэрыялу, прывезеныя ім для дэманстрацыі калегам з Беларусі, па якасці аказаліся прыкметна вышэйшымі за нашыя.

Падчас абмеркавання пытанняў эфектыўнасці айчыннай вытворчасці ДСП акцэнт рабіўся на якасць прадукцыі і яе асартымент. Зусім не гаварылася аб нарошчванні аб'ёмаў. Быццам бы трэба было паразважаць і на гэтую тэму, бо цяпер у рэспубліцы выкарыстоўваецца прыкладна 60 працэнтаў магутнасцяў, прызначаных для выпуску ДСП. Але знос абсталявання сям-там даходзіць да 70 працэнтаў, таму гаварыць аб нарошчванні аб'ёмаў цяпер няма сэнсу.

Калі заходзіць размова пра ДСП, успамінаецца іх эканамічнае каварства. Гэтая прадукцыя ўтрымлівае фенольнафармальдэгідныя рэчывы, шкодныя для здароўя чалавека. Пра тое, якую дапамогу аказваюць вытворцам спецыялісты-даследчыкі, якія распрацаваны рэкамендацыі па змяншэнню шкоднага ўплыву на рабочых, гаварыў на семінары загадчык тэхналагічнага аддзела «Мінскпраектмэблі» **І. Лоўкіс**.

Якасная і цэнавая канкурэнтназдольнасць – блізняты-браты. Другі блок пытанняў, абмеркаваных на семінары, датычыўся эфектыўнасці вырабу драўнінастружкавых пліт з пункту гледжання рацыянальнага выкарыстання сыравіны, матэрыялаў, энергарэсурсаў. Гэтай тэме прысвяціў сваё выступленне начальнік упраўлення маркетынгу і тэхнічнага развіцця лесанарыхтоўчай галіны канцэрна **П. Кавалёнак**.

Што датычыць гаспадарлівага выкарыстання ўсіх кампанентаў, што ідуць на выраб ДСП, дык тут карціна па канкрэтных прадпрыемствах даволі стракатая. Аб гэтым гаворыць эканамічны аналіз, з якім пазнаёміў прысутных начальнік аддзела энергетыкі і экалогіі навукова-тэхнічнага ўпраўлення канцэрна **В. Ладзік**.

Мяркуючы па ўсім, сакрэтаў са сваіх тэхналагічных і эканамічных напрацовак ніхто не робіць. Нягледзячы на розныя вынікі гаспадарчай дзейнасці паміж прадпрыемствамі, вырабляючымі ДСП, існуюць цесныя сувязі. Дзеля таго, каб вытворчыя затраты прывесці да адной роўніцы.

*(Наш кар.).*

ТАЛЕНТЫ

# І пяю я песню для цябе

*Аб'яву з незабыўнай для мяне творчай вечарыны вучаніцы 10 «А» класа СШ №21 горада Баранавічы Міры Несцяровіч я вырашыў захаваць і ўручыць ёй на новых будучых урачыстасцях. Называлася гэтае мерапрыемства «І пяю я песню для цябе», дзе дзяўчына грала ўласную музыку, выконвала песні, напісаныя на свае вершы...*

Актавая зала была паўнюткая, людзі сядзелі, стаялі ўпрытык, прысутнічала тут дэлегацыя з Арменіі, дзе выдадзены касеты Міры Несцяровіч з яе песнямі. Спецыяльна для іх яна выканала песню на армянскай мове.

Актыўны ўдзел прыняў у гэтай вечарыне вакальна-інструментальны ансамбль «Акварэль» на чале з яго кіраўніком Анатолем Уладзіміравічам Міхалкам. Як сведчыла сама М. Несцяровіч, гэта ён «вінаваты» ў яе творчых здабытках. Акрамя Міры Несцяровіч, для прысутных спявалі яе песні Мая Несцяровіч, Алена Азарчык, Кацярына Юруць, Алег Азарчык, Алена Рачкоўская ды іншыя.

Міра Несцяровіч і кіраўнік «Акварэлі» А. Міхалка атрымалі «акіян» кветак і «мора» ўдзячнасцяў. Што захапляючага і добрага было ў гэтым зіхатлівым віхуры, дык тое, што ўсе прысутныя атрымалі сапраўднае задавальненне ад сапраўднай музыкі і паэзіі.

*М. МАЛІНОЎСКІ.*

● КОНКУРСЫ

# КТО НА СВЕТЕ ВСЕХ МИЛЕЕ?

*Мировые эксперты разработали такую сложную и вместе с тем объективную систему оценки красоты женского тела вкупе с одеянием и душевными качествами, что теперь и пятиклассник, ознакомившись с этими критериями, легко и просто может определить «мисс пятиклассницу». Ежегодные старты конкурсов красоты обычно начинаются с... квартир, семейных советов, подбадривания подруг и друзей.*



Решиться выставить себя напоказ может не всякая более или менее красивая девушка. Изумительная черта — девичья стеснительность и стыдливость, за которой гоняются молодые люди, — удерживает порой милых дам от участия в этих традиционных шоу.

Во Дворце текстильщиков недавно проходил конкурс «Мисс Барановичей» с прицелом на участие победительницы в республиканском соревновании. (Господи, что я сказал: соревнование за право быть самой красивой? Обмануть блеском одежд, холодным сверканием улыбок, натренированными движениями тела представителей сильного пола или членов жюри, съевших зубы в этом деле?). Но «битва» за красоту, за поездку в Минск и, быть может, оттуда в сверкающий мир зарубежья началась.

Наблюдая за старательностью соперниц, деланными улыбками, танцами, слушая ответы на задания, я скептически и с некоторым сочувствием давал свои, дилетантские оценки каждому выступлению участниц, песням и музыке ансамблей, отдельным солистам, пытавшимся по заранее разработанным программам украсить праздник красоты. Но постепенно меня «растопили». Школьница Юлия Шавилевская рискнула выйти в белорусском национальном костюме такого «пяшчотнага» исполнения, что сердце ёкнуло. Одиннадцатиклассница Лилия Валицкая оригинальничала со вкусом, с юмором, глубоким смыслом. Ну просто молодчина! Продавец-консультант магазина «Тан-Дем» Инна Петрашевич — одно очарование. Скольким покупателям-мужчинам она запала в душу своей искренностью, душевностью?

Забыты скепсис, растаяло чувство недоверия к искренности праздника. От души, про себя, конечно, поздравил обладательницу короны и титула «Мисс г.Барановичи» учащуюся 11 класса 12-й школы Юлию Круглую. Нелегок будет путь её в дальнейшем марафоне красоты. Встретятся на пути и добрые люди, и дельцы от шоу. Дай Бог тебе, Юля, счастливого пути!

Но что же отвлекло меня от мрачных мыслей в начале конкурса? Организация его на довольно высоком уровне. Это и отличает отдел культуры Барановичского горисполкома. За его плечами — праздники весны, Купалле, молодежные спортивные встречи. И, скажу откровенно, великолепно они проводятся. Зав. отделом Владимир Михайлович Чеботаренко продолжает и развивает опыт предшественников.

А в чем успех отдела? Его сотрудники не работают в одиночку. По традиции привлекаются большинство молодёжных объединений, редакции местных газет, радио, телевидения. В такой кипучей подготовке спонсоры «всплывают» сами. И на этот раз генеральным спонсором стал горисполком, а также фирмы «Альфа», «Золушка», «Имидж», «Соломея», «Стиль», «Тан-Дем», АО «Атлант» и другие.

Девушки не были одиноки на сцене. Ансамбли АО «Атлант», «Улыбка», «Новая звезда», «Рэсту» создали целый фейерверк песен, танцев, музыки.

Вот это конкурс!

*П. НАГНИБЕДА.*

● ВАША ПІСЬМО

***Любая паездка ці падарожжа — гэта зау́сёды пазнанне свету, захапленне перад разнастайнасцю. Выклікае цікавасць і кідаецца ў вочы ў асноўным тое, чаго няма дома.***

# Літоўскія ўражанні

Пашанцавала: мой сын атрымаў пуцёўку на лячэнне ў адзін з санаторыяў Друскенінкая — літоўскага курортнага горада. У блізкае замежжа адправіўся з ім я.

Перасеклі мяжу і трапілі ў другое вымярэнне, культуру, традыцыі.

Друскенінкай. Аўтобусны вакзал невялікі, утульны. Нам паказваюць дарогу да санаторыя ветліва, як гасцям. Ідзем па горадзе. На вуліцах — чысціня і парадак, кветнікі ля дзвярэй шматлікіх кафэ, міні-магазінчыкаў і мастацкіх салонаў. Усё зроблена акуратна, з любоўю прадуманымі дробязямі. Сям-там параскіданы невялікія фантаны — сапраўдныя творы мастацтва з выявамі рыб і жывёл. Гуляюць людзі. Гарадское возера аблюбавалі лебедзі і качкі, якіх гараджане падкармліваюць з берага.

Вось і санаторый — дыхтоўны пяціпавярховы будынак. Ветлівы, сардэчны медперсанал. Хутка афармляюць дакументы і размяшчаюць сына. Мая місія выканана, развітваюся з ім і дадому.

Па дарозе ў Гродна ў аўтобусе разгаварыўся з рускай жанчынай, якая жыве ў Алітусе. Гаваркая кабета ахвотна расказала пра сваё жыццё ў Літве. Пераказваю прыкладную размову з ёй.

— Як адносяцца літоўцы да рускіх, беларусаў, украінцаў?

— Быў перыяд, калі гэтыя адносіны былі варожыя, нацягнутыя. Цяпер інакш. Простыя людзі адносяцца да рускамоўнага насельніцтва добра. Калі здараюцца нейкія шурпатасці, дык з боку «новых літоўцаў»-чынoўнікаў.

— Ці ёсць беспрацоўе?

— Ёсць. І вялікае. Аднак беспрацоўныя карыстаюцца шэрагам льготаў, ім дапамагае дзяржава.

Жанчына расказала, што яна сама з гэтай катэгорыі. За кватэру плаціць толькі 25 працэнтаў. Займаецца гандлем, але ніякай ліцэнзіі на гэты занятак ёй не патрэбен.

— Колькі трэба зарабляць, каб больш-менш прыстойна жыць?

— Гаспадар дома павінен атрымліваць прыкладна 1000 літаў (250 долараў). За такія грошы можна ўтрымліваць сям'ю. Усё залежыць ад чалавека: работу можна знайсці заўжды. Калі вам гавораць, што жывуць кепска, ведайце — перад вамі выпівакі ці гультаі.

— Ці хацелі б вярнуцца ў сацыялізм?

— Не і не.

Як бы цяжка не было, літоўцы хочуць жыць у самастойнай незалежнай дзяржаве. Ніякія саюзы і аб'яднанні, лічаць яны, не здольныя зрабіць іх край заможнай краінай.

Вось бы такія пачуцці маім землякам-беларусам.

*С. КУЧЫНСКІ,*
*жыхар г. Івацэвічы.*

☺ *ПОГОВОРИМ ОБ ЭТИКЕТЕ*

## За праздничным столом

Вести беседу за праздничным столом — большое искусство! Лучшей формой разговора считается беседа в виде вопросов и ответов, обмена взглядами и мнениями. При этом не следует засыпать собеседника новыми вопросами, не выслушав ответа на предыдущие.Неприлично прерывать говорящего. Темы праздничных застольных бесед могут быть самые разные. Не принято говорить лишь по трем вопросам: хозяева дома не должны жаловаться гостям на дороговизну и трудности с приобретением продуктов; гости не должны распространяться о своих болезнях; и те, и другие не должны судачить об отсутствующих, то есть иными словами, сплетничать. Если нам навязывают подобную тему, лучше отвечать: «Полагаю, что нас это не касается». Если сплетничают о нас, не следует вовсе обращать на это внимания. Объяснения, опровержения, особенно «на всякий случай», никогда себя не оправдывают. Нередко собеседников занимает обсуждение внешнего вида знакомых. Подобные разговоры тоже не могут нас украсить.

☺ *ЭТО ИНТЕРЕСНО*

## Послушаемся предков

Обратите внимание на интерьер жилых комнат. Как ни странно, наши предки старались округлить помещение. Иконы висели в красном углу, а не плоско на стене. И шкафы они ставили так, чтобы срезать углы. Кстати, форма большинства культовых помещений круглая. Подмечено, что чёткие, прямые углы мебели, квадратные и прямоугольные помещения угнетающе действуют на психику. Люди же, занимающиеся космической энергетикой, биополями утверждают, будто в овальных и округлых помещениях космическая энергия эффективнее подпитывает человека. Не потому ли американские президенты для решения важных государственных задач удаляются в овальный кабинет Белого дома?

☺ *ВАШЕ ЗДОРОВЬЕ*

## Чеснок в поединке с инфарктом

Несколько лет назад во время раскопок развалин древнего тибетского монастыря был найден рецепт приготовления чесночной настойки, удаляющей со стенок кровеносных сосудов отложения извести и улучшающей их эластичность.

Это лекарство использовалось при лечении атеросклероза, стенокардии, паралича. Причина атеросклероза — нарушение холестеринового обмена. При этом на внутренней оболочке сосудов откладываются липиды (преимущественно холестерина и его соединений), появляются плотные, нерассасывающие бляшки с отложением в них извести. Бляшки сужают просветы сосудов, ограничивают кровоснабжение органов и ведут к образованию тромбов. В результате возникают инфаркт миокарда, ишемический инсульт, нарушается кровоток в конечностях, в кишечнике.

Готовят целебную настойку так. Очищенный и хорошо промытый чеснок мелко режут и растирают в эмалированной посуде деревянным или фарфоровым пестиком, берут 200 г этой массы (желательно с большим количеством сока), помещают в стеклянную или глиняную посуду, заливают 200 г 96-процентного спирта, плотно закрывают сосуд и помещают на 10 суток в темное прохладное место.

# Для дома, для семьи, для души...

Потом настойку процеживают через сложенную в несколько слоев марлю, отжимают и настаивают еще двое-трое суток. Принимают по 3 раза в день каплями с 50 г холодного молока за 20 минут до еды. Порядок приема настойки:

1-й день: завтрак — 1 капля, обед — 2 капли, ужин — 3 капли.

2-й день: завтрак — 4 капли, обед — 5 капель, ужин — 6 капель.

3-й день: завтрак — 7 капель, обед — 8 капель, ужин — 9 капель.

4-й день: завтрак — 10 капель, обед — 11 капель, ужин 12 капель.

5-й день: завтрак — 13 капель, обед — 14 капель, ужин — 15 капель.

6-й день: завтрак — 15 капель, обед — 14 капель, ужин — 13 капель.

7-й день: завтрак — 12 капель, обед — 11 капель, ужин — 10 капель.

8-й день: завтрак — 9 капель, обед — 8 капель, ужин — 7 капель.

9-й день: завтрак — 6 капель, обед — 5 капель, ужин — 4 капли.

10-й день: завтрак — 3 капли, обед — 2 капли, ужин — 1 капля.

С 11-го дня принимают по 25 капель с молоком три раза в день перед едой, пока не будет использована вся настойка. Лечение повторяют через пять лет.

☺ *ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ*

## Перчатки, сумки, чулки

Чтобы несколько расширить тесные кожаные перчатки, их нужно на несколько часов завернуть в сырую тряпку, затем надеть на руки, в таком виде дать просохнуть.

Кожаные перчатки иногда линяют с изнанки и пачкают руки. Рекомендуется насыпать внутрь перчаток немного талька, втереть его, а избыток вытряхнуть.

Замшевые перчатки моют в теплой мыльной воде, надев их на руки. Затем отжимают в полотенце и, аккуратно расправив, сушат.

Чтобы обновить кожаную сумочку, следует осторожно помыть ее теплой мыльной водой, куда добавлено немного нашатырного спирта. Потом просушить и протереть тряпочкой, смоченной касторовым маслом.

Плетеные сумочки из светлой соломки со временем желтеют или приобретают грязно-серый оттенок. Чтобы освежить их, можно помыть в соленой воде.

Новые чулки сразу надевать не следует — их нужно сначала простирать. И вообще чулки надо стирать как можно чаще, так как пот разрушает их ткань. После стирки чулки не выкручивают, а только отжимают, закатав в полотенце. Вешают для просушки, укрепив за носок прищепкой.

☺ *УЛЫБНИТЕСЬ*

В переполненный трамвай входит старушка и видит сидящего мальчика.

— Мальчик, — обращается она к нему, — разве ты не можешь встать?

— Могу, конечно, но ведь вы сразу же займете мое место!

ПРОВИНЦИАЛЬНЫЕ ИСТОРИИ

# Барышня и хулиган

Жили-были супруги Сергей и Людмила. И сынок у них был Серёжа. Назван, надо понимать, в честь отца. Любил малыш во время кутежей родителей поковыряться с молотком в телевизоре, магнитофоне, холодильнике. Всю бытовую технику вывел из строя. Мама и папа не особенно тужили. По причине частых возлияний они впроголодь питались, жизнью общества, в котором жили, не интересовались. Была бы чарка да сухарь на закуску.

Сергей был парень не промах. Мог слямзить, что плохо лежит, пьяного «пощипать», подхалтурить не совсем честным путём. А драться был мастер, хотя и не имел спортивных разрядов. Людмила сквозь пальцы смотрела на бедность, неустроенность. Она восхищалась мужем-драчуном. И когда тот приходил с «фонарями» на лице, крутилась возле него, облегчая боль.

Естественно, милиция была вторым домом Сергея. Но то ли по счастливой случайности, то ли потому, что он был изворотлив и все делал в пределах необходимой безопасности, избежал заслуженной тюрьмы.

Кипучая натура Сергея не удовлетворялась жалким полупьяным существованием с собутыльницей-женой. Он, что называется, рванул на заработки. Пропал, исчез, растворился в безбрежных просторах тогда еще СССР.

—Нет у него ни божьего стыда, ни страха людского, — махнула рукой Людмила и стала устраивать жизнь по своему усмотрению.

Сдала квартиру в наем. С сыном переехала к матери. Устроилась на работу. Замуж не спешила. На развод не подавала. Хотя узнала, что Сергей где-то приженился. Жила, как теперь говорят многие одинокие матери, для сына.

...Прошло немало лет. Парню уже стукнуло семнадцать. Вымахал – в отца. Только в жизни – в мать. Настойчивый, терпеливый, спокойный. Уже мамин помощник. Отец уж забываться стал. Как вдруг звонок в дверь и на пороге Сергей. Приняли его радушно. Годы лечат душевные травмы. День, два живёт с семьей. Ничего не объясняет. Деньги тратит на продукты, одежду сыну, жене, теще. К спиртному не тянется. Первой не выдержала теща:

—Где был-пропадал, зять? Уж не думаешь ли ты, что моя дочь будет с тобой жить? Да и парень от тебя отвык.

— Куда она денется, — как всегда бесшабашно ответил Сергей и обнял Людмилу: — Правда, женушка?

Она согласно кивнула головой.

— А ты, Сергей? — спросила бабушка внука.

— Чего там, один у меня отец, — поддержал сын мать.

Скрипнула зубами теща да и притихла.

Стали опять жить-поживать супруги. Не по-старому. Вернулись на свою квартиру. Обзавелись мебелью на Сергеевы деньги. Парень тоже работать пошел. Живут, как будто не бывало десятилетнего отсутствия мужа и отца.

Странные бывают отношения в семье. Поступки супругов порой противоречат здравому смыслу, а на деле выходит все правильно.

Я недавно встречал эту пару, спросил о делах семейных.

— Люблю я его, хулигана, — ответила Людмила.

— За что?

— Он меня никогда не обманул, несмотря ни на что.

Я развел руками. Чужая семья, как и душа,– потемки.

П. НАГНИБЕДА.



*Сердечно поздравляем*

*Священнослужителя брата КОНСТАНТИНА с днем рождения.*

*Благодарим Господа Бога нашего за Ваш добрый труд, дорогой брат Константин.*

*"Ибо такова есть воля Божия, чтобы мы, делая добро, заграждали уста невежеству безумных людей".*

*1 Пет. 2:15.*

*Сам Бог мира да благословит Вас и да наполнит своею радостью, любовью и благодатью Вашу жизнь.*

*Церковь "Рождества Христова"*

*г. Ивацевичи.*

## Лунный календарь огородника и садовода

**НОЯБРЬ**

| | |
|---|---|
| Дни, неблагоприятные для сева и посадки любой культуры | 15, 19-21, 23, 29, 30 |

**Благоприятные дни**

**Сев, посадка**

| | |
|---|---|
| Семян яблонь, груш, слив, вишен для получения сеянцев | 25, 26 |
| Моркови ( под зиму) | 17, 18, 25 |
| Культивация, перекопка, уничтожение вредителей | 15,19-21, 23, 29, 30 |
| Утепление буртов и хранилищ | 29 |
| Заготовка соков из плодов и ягод, квашение капусты | 17, 18, 27 |

КРИМИНАЛ

# Похитители велосипедов

Как вы думаете, сколько стоит велосипед в Барановичах? От двух миллионов рублей в магазине до... бутылки водки в подворотне. Который по дешевке — краденый. И приобрести такой — проще пареной репы. Иди и поглядывай за углы, в подъезды, приоткрытые ворота подворьев. Увидишь одного-двух потасканных мужиков с бронзово-синими небритыми лицами, тоскливо опирающихся на велосипед, подходи и прямо спрашивай цену. А то просто укажи бутылкой на велосипед. И он — твой. Или подкинь таким «небритым» идею, мол, нужен и через час-два прикатят в обусловленное место. Могут даже с замком на колесе. Смущённо пояснят, что утеряли ключ.

Дальше тоже несложно: баночка краски и кисть. Все! Можешь кататься.Не будут же милиционеры останавливать каждого велосипедиста и требовать техпаспорт и удостоверение личности. Потому у нас очень много развелось похитителей велосипедов. Прямо эпидемия какая-то, наваждение. И ловят их, и сажают в тюрьму, а они как сорная трава. Есть одиночки, есть и организованные группы. Воровской бизнес перекинулся и на этот вид бестопливного транспорта. Бесшабашность воришек поражает.

Встречает соседка и говорит:

—Ты как-то говорил, что хотел бы купить велосипед. Беги скорее на «пятачок» (рыночная площадка в центре Барановичей), там один продает совершенно новый с динамкой, фарой, и зеркальцем (заднего вида) за четыре бутылки.

—Такая торговля не по мне, — говорю.

Но на «пятачок» иду. Любопытно, как это можно среди бела дня на рынке, на глазах дежурных милиционеров продавать за бесценок новую машину. Никого я не нашел, спросил торговцев. Да, сказали, крутился тут один. Видно, продал. Да вот он, кажется, пьёт уже под «грибками» (бар на рынке).

Может это он сорвал замок с подвала дома по ул. Вильчковского, украл там консервированные продукты и увез на стоявшем в подвале велосипеде? Или увел его из сарая по ул. Брестской? Кто докажет? Вещественное доказательство укатило с новым хозяином. А деньги за него легли на прилавок бара и быстро превратились в «Рубин».

Перечислять случаи угона и хищения велосипедов — скучное занятие. Ситуации иногда возникают парадоксальные. За считанные рубли купил рабочий одного завода сверкающий свежей краской велосипед, но... без одной педали. «Не беда, подумал он, сейчас пешком дойду до магазина, куплю педаль, поставлю и поеду». Купил, поставил, разогнал машину, проехал десять метров. Велосипед развалился на несколько частей. А был он собран на свалке, сварен из кусочков, окрашен и выставлен на продажу простофилям. Почему без педали? И ежу понятно.

Из деревни колхозник привез молоко продать в городе. Велик, естественно, увели. Дядька заявил в милицию. А себе через пару дней приобрел «свежевыкрашенный». Радуется: по дешевке! А велосипед органы засекли, владельца задержали. Стали разбираться. Чудеса! Мужик купил свой же велосипед. Но это курьёзы.

Для иного велосипед — незаменимый помощник: на огород, дачу или работу съездить можно при нынешнем безденежье и дороговизне гостранспорта. А воры безжалостно обирают честных людей ради глотка дрянного вина.

...Может, поэтому суды наказывают похитителей велосипедов «под завязку»? И правильно делают. Кстати, в ходе операции «Ралли», проведённой милицией, выявлено 32 подростка, замеченных в воровстве велосипедов.

Н. ПЕТРОВ.



Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 10 лістапада ў 14.00.

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас"
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку.
Пасведчанне № 694.

Нам. рэдактара Аляксандр ЛАЎРАНЮК.
НАШ АДРАС: 225250, г.Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 30, рэдакцыя "Газеты для вас".
Тэлефон: 8 ( 245) 2-12-29.



Тыраж 1100.
Заказ 2666.